9 ЧЭРВЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№63 (594) КОШТ СВАБОДНЫ



# Дыяксін паграажае будучыні Еўропы

## Амаль 400 тонаў бельгійскай курацiны было ўвезена ў Беларусь, з іх 30 тон пайшлі на сасіскі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Вось ужо другі тыдзень практычна ўся Еўропа ахопленая «дыяксінавай ліхаманкай». Кожны дзень становіцца вядома, што ўсё больш прадуктаў харчавання, тэарэтычна могуць утрымліваць павышаныя дозы дыяксіну – хімічнага рэчыва, якое можа выклікаць рак.**

**Праблема бельгійскага мяса птушкі, забруджанага дыяксінам, дакацілася і да Беларусі. На пытанні карэспандэнта НАВІНАЎ пра магчымасць з'яўлення такой прадукцыі ў нашай краіне адказвае начальнік дзяржаўнай ветэрынарнай інспекцыі пры міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання Аляксей КАМАНДЫШКА.**

— Першае інфармацыйнае паведамленне пра небяспечнае птушынае мяса з Бельгіі мы атрымалі з Pacii. Утрыманне дыяксіну ў тым прадукце ў некалькі дзесяткаў разоў перавышае існуючыя нарматывы. Наколькі нам стала вядома, атручванне птушкі дыяксінам адбылося праз англійскія кармы. Атрымаўшы гэтую інфармацыю, мы адразу пачалі правяраць, ці ўвозілася калі-небудзь бельгійскае мяса птушкі і прадукты з яго ў Беларусь.

Аказалася, што замежнае прадпрыемства «Інка» з Брэста ў студзені-лютым гэтага года атрымала дазвол на ўвоз у Беларусь амаль 280 тонаў бельгійскай курацiны, а кампанія «Гродфуд» з Гродна – 88 тонаў. Такім чынам, усяго на тэрыторыю Беларусі было ўвезена каля 368 тонаў курынага мяса з Бельгіі. Усё гэтае мяса было перапрацаванае на сасіскі. Сасісак атрымалася каля 752 тонаў, амаль 720 з іх прадалі ў Расійскую Федэрацыю. Так што беларусам з тых сасісак засталося 32 тоны 200 кілаграмаў. Але з сакавіка бельгійскае мяса птушкі на тэрыторыю Беларусі не паступала. ▶

*Заканчэнне на стар.3*



Фота IREX/ProMedia

**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

### Пяройдзем на магнітныя карткі

З 1 ліпеня на магнітныя карткі будуць пераведзеныя месячныя праязныя ў мінскім гарадскім метрапалітэне. Новаўвядзенне закране таксама і праязныя білеты на некалькі відаў грамадскага транспарту, якія будуць прадавацца ў выглядзе магнітнай карткі з папяровым укладышам. Нягледзячы на досыць буйную суму, якая была ўкладзеная ў навацыю, мяркуецца, што гэта значна аблегчыць работу прапускаючых кантралёраў на станцыях.

Змяненні пакуль што не закрануць дэкадныя і льготныя праязныя, якія плануецца замяніць на магнітныя да канца гэтага года. Першапачаткова новаўвядзенне планавалася ў красавіку, але з-за недахопу сродкаў было перанесенае на пачатак трэцяга квартала.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

### Недахоп прэпаратаў супраць алергіі

З-за вострага недахопу валютных сродкаў рэспубліканскае аб'яднанне «Фармацыя» не ў стане закупляць антыгістамінныя прэпараты ў аб'ёмах, дастатковых для бесперабойнага забеспячэння імі айчынных аптэкаў. У той жа час алергікам не варта адчайвацца. «Фармацыя» паспела заключыць кантракт з вядомай амерыканскай кампаніяй «Шэрынг-Плаў», чый прэпарат — кларыцін, які спецыялісты лічаць адным з найбольш эфектыўных у супрацьстаянні алергіі, ужо паступіў на прылаўкі аптэкаў.

*БелаПАН*

**ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА**

# Усім — «дзякуй», усе — свабодныя!

## У другі раз правалілася нямецкая ініцыятыва, накіраваная на прымірэнне беларускай апазіцыі і Аляксандра Лукашэнкі

Алесь ДАШЧЫНСКІ

З 11 па 13 чэрвеня ў Бухарэсце Кансультатыўна-наглядальная група АБСЕ плануе правесці «сустрэчу для нефармальных перамоваў па пытанні правядзення свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі». На гэтую імпрэзу запрошаныя прадстаўнікі прэзідэнцкага боку і апазіцыі, а таксама некаторых грамадскіх арганізацый – «трэцяга сектара». Арганізатары плануюць яшчэ адну дыскусію, звязаную з канстытуцыйным крызісам у нашай краіне. Да сустрэчы засталося некалькі дзён, аднак пакуль яшчэ няма пэўнасці, ці адбудзецца яна. Ва ўсякім разе, у шэрагах афіцыйнай дэлегацыі пачаліся хваляванні, адны адмаўляюцца ехаць у Бухарэст, іншыя дыпламатычна захварэлі. Намеснік старшыні ніжняй палаты Уладзімір Канаплёў заявіў, маўляў, сустрэча ў Бухарэсце не адпавядае ягонаму ўзроўню. Яшчэ трое — Аляксандр Абрамовіч, Рыгор Васілевіч і Анатоль Красуцкі – «захварэлі». Старшыня камісіі па міжнародных справах палаты Аляксандр Козыр сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што з радыкальным крылом апазіцыі, якая стаіць на прынцыпах 1994 года, «няма чаго сустракацца і няма пра што размаўляць». З некаторымі прадстаўнікамі «трэцяга сектара», па словах А.Козыра, можна сустрэцца і ў Мінску.



Андрыян Северын і Ханс-Георг Вік падчас прэс-канферэнцыі ў Мінску

Фота IREX/ProMedia

Улічваючы склад афіцыйнай дэлегацыі, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) Мікалай Статкевіч разглядае імпрэзу ў Бухарэсце як чарговы семінар. Менавіта па гэтай прычыне некаторыя апазіцыйныя палітыкі адмовіліся ехаць на сустрэчу. Лідэр Народнай грамады М.Статкевіч лічыць аднак, што, нягледзячы на занятасць, апазіцыя павінна ехаць у Бухарэст, каб прадэманстраваць сваю гатоўнасць да дыялогу, хоць «вялікіх спадзяванняў на гэты семінар няма».

Затое КНГ АБСЕ пад кіраўніцтвам пасла Ханса-Георга Віка мяркуе, што сустрэча стане стартам для дыялогу паміж удзельнікамі канстытуцыйнага канфлікту ў нашай краіне. На імпрэзу запрошаны 24 персоны, якія павінны цягніком праз Маскву ехаць на рандэву ў Бухарэст. Выдаткі на білеты, харчаванне і гатэль узялі на сябе АБСЕ і ўрад Румыніі. Аднак учора ў КНГ АБСЕ нам параілі пачакаць, інфармацыя для журналістаў пра намечаны бухарэсцкі дыялог яшчэ не гатовая. ■

*Каментар НАВІНАЎ чытайце на стар.3*



**НАДВОР'Е**




**10 чэрвеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі па **Гродзенскай, Брэсцкай**, на захадзе **Мінскай і Віцебскай** абласцей кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер няўстойлівы, слабы, пры навальніцах парывы да 15–20 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 14–19 градусаў.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

## Вецер носіць

Не веру! Ні на кроплю! Ні на шэлег! Ні на грам!

Прэзідэнт ходзіць па бальніцах у белым халаце,ківае галавой, разводзіць рукамі, сядзіць на ложках каля ахвяраў Нямігі, гаворыць у тэлекамеру правільныя словы. На твары — смутак. Абяцае дасканала разабрацца. Абяцае не пакідаць людзей адных у горы. Абяцае яшчэ нешта не вельмі канкрэтнае і зразумелае. А я не веру.

Не веру, што ён шчыра смуткуе. Не веру, што яго слёзы сапраўдныя. Не веру, што ў бядзе ён разам з народам. Не веру, што яго кветкі на месцы трагедыі — ад чыстага сэрца.

Але чаму? Хіба не ўласціва чалавеку падзяляць гора іншых людзей, спачуваць ім, дапамагаць у няшчасці? Гаварыць ім суцяшальныя словы?

Простаму чалавеку, вядома, уласціва. У беларуса гэта ў характары, ён лёгкі на спачуванне і скупую слязіну. Гэта так натуральна і проста.

Чалавеку ўласціва, а такому палітыку, як Лукашэнка, — не! Калі прэзідэнт здольны на простыя чалавечыя пачуцці, дык чаму ён не шкадаваў няшчаснага хворага калеку Старавойтава? Альбо дзяцей сваіх палітычных апанентаў Клімава і Кудзінава? Альбо дачок Юрыя Захаранкі? Альбо замучаную ў турме да паўсмерці Віннікаву? Альбо падарожнікаў на паветраных шары, збітых над нашай краінай? Альбо падлеткаў, якія пісалі на плоце патрыятычныя лозунгі? Альбо свайго выратавальніка і паплечніка — міністра сельскай гаспадаркі Лявонава? Альбо выпускнікоў навучальных установаў, якіх размяркоўваюць у забруджаныя радыяцыяй раёны? Альбо збітых у горкі яблык амонаўцамі маладзенькіх дэманстрантаў? Альбо тых бацькоў, чые дзеці зараз співаюцца, бо не вераць больш у сваё будучае і будучае краіны? Альбо тых жанчын, якія некалі галасавалі за мірнае жыццё, а заўтра будуць аддаваць сваіх дзяцей у расійскае войска? Альбо тых безабаронных пенсіянераў, якія ўсё яшчэ чакаюць ад яго цуду, нібыта падманутыя Дзедам Марозам дзеці?

Чаму за пяць гадоў свайго прэзідэнцтва Лукашэнка не паказаў дабрыні, спагады, разважлівасці, міласэрнасці, памяркоўнасці, талерантнасці — трывалых рысаў характару простага беларуса? Пяць гадоў не паказваў, а тут на Нямізе раптам нешта прарвала? Забруяла і зафантаніравала? Так не бывае. Чаго няма, таго няма. Што ёсць, тое ёсць: нецярпімасць, катэгарычнасць, самалюбства... Такая характарыстыка.

У мяне няма веры ў гэтага чалавека. Скончылася ўся, да апошняй кроплі. А ў вас засталася?

# Цягнік узялі штурмам

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Надзвычайнае здарэнне адбылося напрыканцы мінулага тыдня на Пінскім чыгуначным вакзале.

У выніку аварыі лініяў электраперадачы там адключыліся ўсе камп'ютэры ў касах для продажу білетаў. Сотні людзей, якія сабраліся ў гэты час на вакзале, не змаглі набыць квіткі і даехаць да патрэбнага ім месца.

Спачатку адміністрацыя вакзала наогул адмаўлялася хоць нейк дапамагчы разгубленым пасажырам. Маўляў, адбылася аварыя, і мы тут ні пры чым. А начальнікі і правадніку праходзячых цягнікоў наадрэз адмаўляліся пускаць безбілетнікаў у вагоны. Такім чынам станцыю Пінск прамінулі чатыры цягнікі, і ніводзін з пасажыраў не змог паехаць у патрэбным накірунку. Тым часам на чыгуначны вакзал прыбывалі ўсё новыя і новыя людзі. Адміністрацыя станцыі, праўда, спрабавала нейк дамовіцца з праваднікамі цягнікоў, каб тыя самі выпісвалі людзям білеты, але безвынікова. І тады абураны натоўп выйшаў на рэйкі і прыгразіў перакрыць чыгуначны рух, калі людзям не ўдасца ў самы бліжэйшы час пакінуць Пінск. Міліцэйскаму нараду, што прыбыў на месца стыхійнай акцыі пратэсту, не ўдалося супакоіць раз'юшаных людзей. Напружанне спала толькі тады, калі на станцыю прыбыў чарговы цягнік Брэст—Мінск. Натоўп безбілетных пасажыраў кінуўся штурмаваць вагоны. Праваднікоў, якія спачатку спрабавалі пратэставаць, натоўп «зайцаў паняволі» проста заштурхаў у вагоны. Аднак усім месца ў адным цягніку не хапіла. Вагончык тронуўся, перон застаўся, а на ім засталіся і дзесяткі разгубленых пасажыраў, якія ў гэты дзень ужо нікуды не паехалі. ■

# Створаны Цэнтр імя Карпенкі

**БелаПАН**

Устаноўчы сход Цэнтра падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Генадзя Карпенкі прайшоў 5 чэрвеня ў Мінску. Сярод арганізатараў новай грамадскай арганізацыі такія вядомыя людзі, як народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў Сяргей Антончык, Анатоль Мардашоў, Уладзімір Белякоў, Сямён Домаш і іншыя. Удава Генадзя Карпенкі — Людміла, адкрываючы сход, сказала, што «тут сабраліся самыя верныя сябры і адданыя паплечнікі Генадзя Дзмітрыевіча, тыя, хто застаўся верным яму ў самыя цяжкія і адказныя хвіліны жыцця, хто заўсёды і ва ўсім падтрымліваў галоўную ідэю, сэнс яго жыцця — пабудову ў нашай краіне сапраўды дэмакратычнага, адкрытага ўсяму свету, цывілізаванага грамадства».

У прынятым статуце гаворыцца аб тым, што мэтамі Цэнтра з'яўляюцца арганізацыйнае, інфармацыйнае і фінансавае забеспячэнне падтрымкі дэмакратычных пераўтварэнняў і рэформаў у Рэспубліцы Беларусь. ■

# Балтийское море перед лицом экологической катастрофы

**Baltic Times**

Химические вещества, с помощью которых нацисты уничтожили миллионы людей, все еще угрожают странам Балтии.

Тысячи контейнеров с 300.000 тоннами химического оружия лежат на дне Балтийского моря со времён Второй мировой войны. Примерно половина контейнеров содержит горчичный газ, в то время как в остальных находятся другие смертельно опасные вещества.

В период с 1945 по 1948 год эти химические вещества были вывезены из нацистской Германии и сброшены в Балтийское море американцами и англичанами. Резервуары загрузили на 60 конфискованных немецких торговых судна, а затем затопили их к юго-западу от Лиепаи. Сейчас экологи бьют тревогу, так как существует опасность утечки этих вредных веществ.

Исследователи института океанологии им. Ширшова в Калининграде предполагают, что 8-миллиметровые стенки резервуаров ржавеют со скоростью 1 миллиметр за шесть лет. Таким образом, требуется около 48 лет, чтобы они полностью проржавели. Между тем, контейнеры находятся под водой уже больше 50 лет.

Национальный комитет по экологической безопасности РФ в мае сделал предупреждение, что если никаких мер не будет принято, то балтийский регион ожидает экологическая катастрофа. ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Скочку пагражаюць 2 гады і дэпартацыя

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Падыходзіць да заканчэння судовы працэс над маладафронтаўцам Яўгенам Скочкам, які абвінавачваецца ў арганізацыі парушэнняў грамадскага парадку падчас акцыі 14 лютага бягучага года.**

Пракурор Чырын папрасіў суддзю даць Скочку 2 гады з адтэрміноўкай прысуду на такі ж тэрмін і дэпартаваць на гэты перыяд маладафронтаўца на пастаяннае месца жыхарства ў Гомель, дзе пражываюць яго бацькі і дзе ён будзе знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе, а таксама ў мэтах выхавання забараніць Скочку наведваць несанкцыяваныя масавыя палітычныя акцыі. Абаронцы ў свою чаргу папрасілі ў суддзі поўнага апраўдання падсуднага. Да таго ж грамадскі абаронца Гары Паганяйла зафіксаваў 39 (!) парушэнняў крымінальна-працэсуальнага кодэкса, якія былі дапушчаныя ў ходзе следства.

Суддзя Валерый Камісараў адмяніў ранейшае рашэнне суда Цэнтральнага раёна, які за гэтае ж «злачынства» прысудзіў Скочку 10 сутак адміністратыўнага арышту, які Яўген ужо адседзеў. Цяпер маладафронтавец падаў у суд Цэнтральнага раёна на суддзю Валерыя Барысёнка аб кампенсацыі маральных выдаткаў на суму 1 мільярд рублёў. У такую суму ён ацаніў адседжаную дэкаду.

Паседжанне ў Мінскім гарадскім судзе працягнецца 10 чэрвеня, у чацвер, а 14-ай гадзіне. Пасля апошняга слова, якое будзе дадзенае падсудняму Скочку, суддзя Валеры Камісараў зачытае прысуд. ■

# Список пунктов МГОРП «Белсоюзпечать», где принимается подписка «до востребования»

1. Ул.Володарского, 22. Магазин № 14
2. Ул.Есенина, 16. Магазин № 20
3. Ул.Жилуновича, 31. Магазин № 24
4. Ул.Жуковского, 5, корп.1. Октябрьский пункт подписки
5. Ул.Жуковского, 5. Магазин № 1
6. Ул.Я.Коласа, 67. Магазин № 7
7. Ул.Калиновского, 82, корп.2. Магазин № 13
8. Ул.Кижеватова, 80. Магазин № 12
9. Ул.Кошевого, 8. Партизанский пункт подписки
10. Ул.Ленина, 15. Магазин № 4
11. Пр.Машерова, 51, корп.1. Магазин № 19
12. Пр.Машерова, 31 (г-ца «Планета»). Киоск № 262
13. Пр.Машерова, 19 (г-ца «Юбилейная»). Киоск № 78
14. Ул.Некрасова, 35. Магазин № 17
15. Площадь Победы (подземный переход). Магазин № 18
16. Площадь Притыцкого (подземный переход). Магазин № 21
17. Площадь Я.Коласа (переход около ЦУМа). Киоск № 136
18. Пр.Пушкина, 77. Магазин № 11
19. Пр.Рокоссовского, 140. Магазин № 9
20. Ул.Романовская Слобода, 9. Фрунзенский пункт подписки
21. Ул.Славинского, 39. Магазин № 23
22. Пр.Скорины, 11 (г-ца «Минск»). Киоск № 34
23. Пр.Скорины, 44. Магазин № 2
24. Пр.Скорины, 76. Магазин № 3
25. Пр.Скорины, 113. Первомайский пункт подписки
26. Ул.Сторожевская, 15 (г-ца «Беларусь»). Киоск № 187
27. Ул.Сурганова, 40. Магазин № 8
28. Ул.М.Танка, 16. Магазин № 15
29. Ул.Филимонова, 1. Магазин № 6
30. Ул.В.Хоружей, 24. Магазин № 16

ЦЫТАТА НУМАРА

**У нас есть люди, которые всячески гадят Лукашенко, но это те, для которых родина там, где лучше накормят. И молодец Александр Григорьевич, что, видимо, работает, как и я, по принципу «караван должен идти, а собаки пускай лают».**

*Александр РУЦКОЙ*

*Из интервью «Народнай газеце», 8 июня 1999г.*

# СНІД – асноўны забойца ў Афрыцы

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

З году з сусветнай статыстыкай, за мінулы год СНІД ужо заняў чацвёртае месца ў спісе самых частых прычынаў смерці, саступаючы толькі сардэчным хваробам, інсультам і смерцям ад вірусных інфекцыяў. Што ж датычыць Афрыкі, то там ён упэўнена абагнаў нават малярыю — ад віруса СНІДу летась на «чорным кантыненце» загінула 2 мільёны чалавек. ААН мяркуе, што кожны наступны год колькасць ахвяраў СНІДу ў Афрыцы будзе падвойвацца. ■

# Пружанскія «бунтаўшчыкі»

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Днямі Брэсцкі абласны суд прызнаў незаконным страйк, які правялі ў красавіку работнікі Пружанскага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. А дванаццаць чатыры найбольш актыўныя забастоўшчыкі распараджэннем адміністрацыі аб'яднання пазбаўленыя прэміяльных грошай.

Пружанскія камунальшчыкі патрабавалі ад кіраўніцтва аб'яднання значнага павышэння зарплаты. Справа ў тым, што заробкі на прадпрыемстве не перавышалі двух мільёнаў рублёў, і, натуральна, утрымліваць на такія грошы свае сем'і рабочыя былі проста не ў стане. У пачатку красавіка 120 работнікаў аб'яднання спынілі працу і страйкавалі цэлы тыдзень. Забастоўка скончылася толькі пасля таго, як начальства паабяцала камунальшчыкам перагледзець сістэму аплаты іхняй працы. Але замест падвышэння заробкаў рабочым адміністрацыя падала на іх у суд і выйграла справу, а самых зацятых бунтаўшчыкоў пакарала рублём. ■

# МВФ дополнительно выделяет Украине $ 336 миллионов

**Агентство USIA**

Международный валютный фонд удовлетворил просьбу Украины о выделении этому государству дополнительных $ 336 миллионов.

В соответствии с сообщением МВФ, выделение дополнительного финансирования обусловлено рядом внешних факторов, оказывающих отрицательное влияние на экономику Украины, в том числе низкими ценами на экспортную продукцию (в частности, продукцию металлургии), низким уровнем потребительского спроса в регионе, который является следствием российского финансового кризиса, а также негативными тенденциями в торговле дунайского региона, обусловленными кризисом в Косово. По информации МВФ, Украина получит $ 50 миллионов из общей суммы немедленно. ■

# Разумныя вучацца на чужых памылках

**Аддзел інфармацыі**

У сувязі з трагічнымі падзеямі, што адбыліся ў Мінску 30 траўня, калі ў выніку таўкатні загінулі 52 чалавекі, у мінулую суботу ў Кіеве прайшлі камандна-штабныя вучэнні для кіруючага складу міліцыі і Нацыянальнай гвардыі.

Як паведаміла агенцтва УНІАН, асноўнай мэтай вучэння было павышэнне ўзроўню гатоўнасці ўнутраных войскаў да дзеянняў у нестандартных сітуацыях. Рэакцыя міліцыі адпрацоўвалася ў найбольш шматлюдных месцах — Нацыянальным спартыўным комплексе «Алімпійскі» і станцыі метро «Рэспубліканскі стадыён». Праводзілася вучэбная эвакуацыя людзей з падземных пераходаў у сітуацыях, падобных той, што была ў Мінску. ■

# Правамі сабакаў і катоў зоймуцца брытанскія эксперты

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН**

У Гомель прыбылі эксперты Брытанскага каралеўскага таварыства па прадухіленні жорсткага абыходжання з жывёламі. Гэтае таварыства патраніруе дзейнасць дзвюх гомельскіх грамадскіх арганізацыяў абароны жывёлаў «Фенікс» і «Дабрыня», аказваючы ім розную дапамогу.

Цяпер брытанскія эксперты разам з прадстаўнікамі гомельскіх арганізацыяў маюць намер сустрэцца з кіраўніцтвам горада, каб абмеркаваць магчымасць стварэння ў Гомелі прытулку для бяздомных жывёлінаў. Каардынатар беларускай праграмы каралеўскага таварыства Джулія Олдэй заявіла, што для ажыццяўлення такога гуманнага праекта Гомелю будзе аказаная фінансавая дапамога.

Таксама брытанскія эксперты прадставяць гомельскай грамадскасці адукацыйную праграму, якая навучае правільнаму і гуманнаму абыходжанню з жывёламі. На іх думку, гэтая праграма павінна стаць абавязковым элементам вучэбнага курса ў школах горада. ■

# Дыяксін пагражае будучыні Еўропы

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

***— Ці рабіла нешта міністэрства сельскай гаспадаркі, каб спыніць магчымасць далейшых паставак у Беларусь прадуктаў, якія могуць быць забруджаныя?***

— Мы адразу забаранілі імпарт мяса птушкі з Бельгіі – у першую чаргу. На мяжы завярнулі назад у Бельгію «фуру», якая ішла на адрас кампаніі «Інка». Мы таксама анулявалі ўсе дазволы на ўвоз бельгійскага мяса птушкі, якія былі выдадзеныя раней, забаранілі ўвоз субпрадуктаў, мяса, фаршу з птушкі, імпарт свініны і прадуктаў з яе, а таксама кармоў жывёльнага паходжання для свіней і птушкі.

Пасля таго, як стала вядома, што Францыя, Галандыя, Англія і Германія таксама выкарыстоўвалі кармы з высокім утрыманнем дыяксіну, мы забаранілі імпарт птушкі і з гэтых краінаў.

***— У гэтым выпадку нас папярэдзіла Расія. А як звычайна вы даведваецеся, якія прадукты небяспечныя для здароўя людзей і з якіх краінаў такія прадукты могуць паступаць?***

— Мы кожныя 10 дзён атрымліваем інфармацыю з Міжнароднага эпізаатычнага бюро (эпізаотыя – шырокае распаўсюджванне заразных хваробаў жывёлаў. – **Р.П.**), з краінаў СНД – Расіі, Украіны... Практычна ўсе краіны даюць нам аператыўную інфармацыю пра раптоўнае ўзнікненне тых ці іншых заразных хваробаў у жывёлаў.

***— Як выглядае працэдура паступлення прадуктаў харчавання з замежжа ў Беларусь?***

— Прыватны прадпрымальнік ці камерцыйная фірма пісьмова звяртаецца ў галоўнае ўпраўленне ветэрынарыі пры мінсельгасхарчы для атрымання дазволу на ўвоз той ці іншай прадукцыі. Да пісьмовай заявы прыкладаецца копія кантракта. Калі мы бачым, што краіна-экспарцёр «добрая», там няма хваробаў жывёлы, то даем дазвол. Але толькі на месяц – бо сітуацыя можа змяняцца вельмі хутка.

***— А ці не можа атрымацца так, што нейкі расіянін, напрыклад, піша: «хачу прывезці ў Беларусь польскае мяса», а на самой справе тое мяса – бельгійскае?***

— Мы цалкам забаранілі рээкспарт мяса з Расіі – расіянін можа ўвезці толькі мяса, непасрэдна выробленае ў ягонай краіне. Мяса таксама можна ўвезці з Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Даніі, Швецыі, Аўстрыі, Аўстраліі, ЗША, Фінляндыі, з краінаў Балтыі – калі гэта менавіта іх прадукцыя, з Украіны, Малдовы і шэрагу іншых краінаў. Што датычыць мяса птушкі, то тут мы пакуль дазваляем увоз курыных кумпячкоў з Польшчы і ЗША.

***— Скажыце: а вы не правяраеце якасць мяса, якое ўвозіцца з той ці іншай краіны? Бо цалкам магчыма, што, напрыклад, тое мяса з Бельгіі, што спрабавалі ўвезці ў Беларусь апошнім часам, – «чыстае»...***

— Не так проста пракантраляваць «чысціню» прадуктаў. Нейкіх асаблівых экспрэс-метадаў вызначэння дыяксіну ў нас няма, таму мы проста паставілі заслону на шляху патэнцыйна небяспечных прадуктаў харчавання. Тым не менш, у бліжэйшы час у міністэрстве аховы здароўя пачнуць працаваць дзве лабараторыі, якія будуць правяраць прадукты на ўтрыманне дыяксіну.

Мы ведаем, што ў некаторых краінах існуюць праблемы з рознымі небяспечнымі захворваннямі жывёлаў – таму такія краіны для нас «закрытыя», адтуль ніякае мяса паступіць да нас не можа. Гэта такія краіны, як Бельгія, Галандыя, Францыя, Англія, Германія, Ірландыя, Партугалія, Швейцарыя і іншыя.

І ўвогуле, на што нам замежнае мяса? Нам свайго хапае, нават даем на экспарт у Расію. Нам пашанцавала — у нас вельмі жорсткія патрабаванні па ўвозе прадуктаў. Таму «атручаныя» прадукты да нас у краіну не патрапяць. ■

ДАВЕДКА НАВІНАЎ

*Дыяксін — адно з найбольш таксічных рэчываў. Па ступені сваёй шкоднасці ён саступае толькі радыеактыўным матэрыялам. Дыяксін утвараецца пры згаранні арганічных рэчываў альбо пластыка. У ЗША ў выніку некалькіх выкідаў дыяксіну ў атмасферу людзі былі вымушаныя пакідаць свае дамы – напрыклад, горад Таймс Біч у штаце Місуры быў цалкам эвакуяваны. Дыяксін пагражае здароўю нават у самых маленькіх дозах. Ён разбуральна ўздзейнічае на гармоны. Ён б'е па клетцы і мадыфікуе яе генетычны механізм. У выніку гэтага ўтвараюцца ракавыя пухліны, зніжаецца імунітэт, адбываецца расстройства нервовай сістэмы і дзетанараджэння. Чалавек не мае імунітэту супраць дзеяння дыяксіну.*

ТЭНДЭНЦЫІ

# Вяртанне «Талакі»

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**У мінулую нядзелю незвычайны «пікнік» прайшоў на турбазе «Лясное возера» пад Баранавічамі. З усёй Беларусі з'ехаліся былыя актывісты самых апазіцыйных у часы перабудовы арганізацыяў — «Талакі» ды Канфедэрацыі маладзёжных суполак. Паводле крыніцаў, «ветэраны ў нефармальнай абстаноўцы абмяркоўвалі вынікі мінулага дзесяцігоддзя і прыйшлі да высновы, што трэба зноў «брацца за рукі, каб не згінуць паасобку». У абраную талакоўцамі Раду ўвайшлі вядомыя сябры суполкі 80-х гадоў — Вінцук ВЯЧОРКА, Віктар ІВАШКЕВІЧ, Алесь БЯЛЯЦКІ, Алесь СУША і Сяржук ВІТУШКА.**

Вынікам размовы таксама стала рашэнне адправіць у «ганаровы адпачынак» тых, хто кіраваў справай адраджэння на працягу апошніх 10 гадоў, і самім станавіцца ў руля.

Нагадаем тым, хто забыў ці не ведае. У сярэдзіне 80-ых гадоў група маладых інтэлектуалаў (у асноўным дзеці кіруючай эліты) стварыла ў Мінску нефармальную суполку. Назваліся «Талакою». Мэтай паставілі адраджэнне беларускай мовы, традыцыяў продкаў. Спачатку праводзілі экалагічныя акцыі, фэсты — не вельмі масавыя, але выключна па-беларуску. Напрыклад, гукалі вясну. І яна адазвалася. Маладая і дзёрзкая, гэтая вясна нарабіла такога шуму, што за нефармалаў у саламяных капелюшах з бел-чырвона-белымі стужкамі ўзялося КДБ. Але было ўжо позна. У 1988 годзе з дзесяткаў «талакоў» па ўсёй Беларусі ўзнікла Канфедэрацыя маладзёжных суполак — касцяк будучага аргкамітэта па стварэнні Беларускага Народнага Фронту. Вось калі іхні дэвіз «Жыве Беларусь!» стаў лозунгам часу, а ў вялікую палітыку прыйшлі Пазьняк і Хадыка, Ткачоў і Шушкевіч. А тыя маладыя і ўпартыя, што прарвалі гэтае жалезнае кола дзякуючы выключна сваёй маладзёжнай наіўнасці, засталіся на другасных ролях. Калі над Домам урада падымалі бел-чырвона-белы сцяг, большасць талакоўцаў ужо была далёка ад палітыкі — хто ў асвеце, хто ў бізнесе. Палічылі, што прыйшоў час заняцца асабістай кар'ерай, бо «кар'еру» краіны ўжо ёсць каму забяспечваць. Зараз яны зразумелі, што памыліліся.



Хто пойдзе наперадзе?

Чым будзе новая «Талака»? Паводле талакоўцаў, якім належыць ідэя адраджэння былой арганізацыі, яна не будзе рэгістравацца. «Мы проста заключылі джэнтльменскае пагадненне падтрымліваць адзін аднаго», — паведаміў НАВІНАМ адзін талакоўскі лідэр. Ён упэўнены, што беларускаму адраджэнню якраз не хапае духу і традыцыяў сям'і, у якой усе за аднаго і адзін за ўсіх. Калі б такі дух, які, дарэчы, існаваў у былой «Талацэ», захаваўся б і ў Фронце, многіх сённяшніх праблемаў апазіцыі ўдалося б пазбегнуць. Раздробленасці, узаемнай падазронасці, сварлівасці. Вось гэтым, маральным адраджэннем нацыянальнай апазіцыі і збіраецца заняцца ў першую чаргу «Талака». Як? Відаць, даволі проста. Нікога са старэйшых сябраў былая моладзь перавыхоўваць не збіраецца. «Гэта дарэмная трата сілаў. Мы проста зробім ратацыю кадраў», — шчыруе наша крыніца.

Ці пагражае новая «Талака» расколам Беларускаму Народнаму Фронту? Тые ўдзельнікі пікніка на «Лясным возеры», з якімі ўдалося абмяняцца думкамі наконт будучыні БНФ, перакананыя, што гэтай пачэснай арганізацыі неабходная свая «перабудова», і калі пакаленне талакоўцаў гэта зробіць, дрэнна для агульнай справы не будзе. А ў тым, што ў іх атрымаецца лепш, што прыйшоў іх час, талакоўцы не сумняваюцца. Дарэчы, самаўпэўненасць, з якой яны гэта кажуць, сапраўды нагадвае былую «Талаку». Вось толькі ці не згубілі талакоўцы за 10 гадоў палітычнага прастою якасці, гэтак патрэбныя ў змаганні за Беларусь? ■

ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА

# Усім — «дзякуй», усе — свабодныя!

КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Очередной проект главы миссии ОБСЕ Ханса-Георга Вика терпит поражение. Переговорный процесс, за который немецкий политик ратовал с первого дня своего пребывания в Беларуси, завершается не начавшись. С первых дней подготовки Бухарестской встречи было очевидным, что белорусский президент не отправит на переговоры представительную делегацию.

Министр иностранных дел Урал Латыпов, поблагодарив миссию ОБСЕ за упорство в организации переговоров, заверил господина Вика, что нынешнее руководство страны само справится со сложившейся ситуацией. Дипломатично сказанные фразы означали полное неприятие навязчивой идеи главы миссии. Большинство представителей белорусской оппозиции, в отличие от представителей власти, было готово к переговорному процессу. Но только если этот процесс начнется до 20 июля. После этой даты глава государства теряет свою легитимность, и уже оппозицию придется уговаривать г-ну Вику для того, чтобы ее представители пошли на переговоры с узурпатором власти.

Чтобы понять позицию г-на Вика, стоит привести его цитату из отчета Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ, который фигурировал на слушаниях по Беларуси в Конгрессе США: *«Некоторым группам оппозиции сложно понять, что государства-члены ОБСЕ склонны проводить различие между демократической легитимностью и международной практикой поддержания официальных отношений (де-факто означающем признание) со странами и правительствами, которые такой демократической легитимности не имеют»*. Налицо двойной стандарт в подходе главы миссии ОБСЕ к ситуации в Беларуси и его желание распространить подобное отношение на евроструктуры.

На деле же ситуация выглядит не совсем так, как ее представляет г-н Вик. На заседании Северо-Атлантической Ассамблеи, которое проходило 27-31 мая в Варшаве, была принята резолюция о ситуации в Беларуси. В этой резолюции говорится о том, что после 20 июля президент Лукашенко перестает быть законно избранным. Стоит напомнить также о недавней резолюции Европарламента и заявлении Госдепартамента США, в которых говорилось все о той же, роковой для президента, дате 20 июля.

Главе миссии ОБСЕ следовало бы глубже изучить события последних лет в Беларуси. В 1997 году подобная инициатива по налаживанию переговорного процесса также провалилась по вине руководства страны, которое не приемлет политики диалога, а предпочитает решать возникшие проблемы с позиции силы.

КАМЕНТАР

# «Коготь» по-белорусски – 2

**Егор ИВАНОВ**

**В прошлом номере НАВІНЫ сообщили о размещении в сети Интернст списков курсантов высшей школы КГБ Беларуси. Напомним, что в список включены имена и домашние адреса 67 курсантов 1977—1979 годов рождения. По данным страниц, трое курсантов якобы совмещают обучение в высшей школе КГБ с учебой в МВТУ, ПТУ-63 и МТСМ (аббревиатуры не расшифровываются).**

НАВІНАМ не удалось получить комментарий в пресс-службе КГБ. А вот агентству Интерфакс в центре информации и общественных связей КГБ сообщили, что не могут подтвердить либо опровергнуть содержащуюся на страницах Интернета информацию. В то же время, по мнению одного из сотрудников КГБ, «снять» информацию, содержащую списочный состав курсантов, не представляет особого труда, другое дело — насколько эти списки соответствуют действительности. Источник высказал сомнение по тому поводу, что курсанты школы могут совмещать подготовку в школе КГБ с обучением в других учебных заведениях, включая ПТУ. Мол, в школу набираются курсанты, уже имеющие высшее образование. В то же время источник отметил, что в этом году в институте национальной безопасности проходит эксперимент по новой форме обучения. Курсанты изучают специальные предметы, необходимые контрразведчику, непосредственно в ИНБ и параллельно получают общепрофессиональное образование в других гражданских вузах Минска. ■

МЕРКАВАННІ

# Непредсказуемая Беларусь

## Послесловие к длящейся трагедии

**У нас такая национальная индульгенция — «этого нельзя было предсказать». Оно же с философской многозначительностью — «кто мог знать?» или «гэта ж немагчыма было ведаць». То есть — никто не мог, и я среди «никто», и потому я прощаю всем, а все мне. Консенсус! Есть прелестная поговорка: умные учатся на чужих ошибках, дураки — на своих. Она неточна. Она не охватывает когорту безошибочных, которым нечему и незачем учиться. Тех, которых история, не знающая сослагательного наклонения, учит только тому, что ничему не учит. Бедная безграмотная история.**



Александр ПОТУПА

### «Непредсказуемая» природа

О трагедии на Немиге трудно говорить. Многословные президентские заявления, клонящиеся к тому, что народ не должен искать виновных в этом совершенно случайном и, понятное дело, непредсказуемом событии, — вовсе не ошибка и не фальсификация. А, простите, много хуже — безвкусица. Казалось, хоть на этот раз традиционные общездравосмысленные монологи уступят место куда более приличествующему скорбному молчанию. Не уступили!

Зачем же тогда создавать правительственную комиссию во главе с премьер-министром, ежели есть верховная установка на «невиноватость и непредсказуемость»? В принципе, на эту мгновенно родившуюся установку четко ответил минский мэр Владимир Ермошин, подавший в отставку. Он-то цену этой «непредсказуемости» знает прекрасно.

Но по большому счету верно и то, что дело вовсе не в «назначении конкретных стрелочников» по конкретному делу. Индульгенции упомянутого выше типа составляют целую систему ухода от ответственности и, если угодно, — важнейшую основу доставшейся нам в наследство тоталитарной культуры.

### Непредсказуемая президентура

Когда в самом начале белорусской президентуры, в декабре 1994 года, правительство и администрация сочинили полтораста погромных поправок к налоговому законодательству и направили их в парламент, трудно было предсказать, что над всей экономической политикой всенародно избранного повисает клеймо — «антирыночный переворот»? Трудно было предсказать, что печально знаменитая февральская (1996 год) телефонограмма президента, приостановившая на полгода регистрацию, перерегистрацию и лицензирование субъектов хозяйствования, станет последней в психологическом плане точкой в реальных отношениях с Всемирным банком и Международным валютным фондом? Бедные эксперты трижды перепроверяли перевод этого, с позволения сказать, документа... И разве что-то не предсказывалось? Рост курса доллара в 150 раз в эпоху президентуры — полная неожиданность? Когда ведущий экономист страны и его остепененные советники элементарно путают прогноз, программу и план, стоит ли удивляться, что из 12 «заданных параметров» 11 оказываются далеко за пределами «задания»? Очень сложный вопрос — чем должен заниматься трудовой народ, посаженный на 30-долларовую среднюю зарплату? Видимо, теневой экономикой — хотя бы в том же объеме, что и легальной. И особо сложный вопрос (только для докторов экономики) — как будут управлять страной органы управления, сидящие на 50-70 (пусть и 100) долларах в месяц? Впрочем, как — видит каждый. Вот предсказать буйную гиперкоррупцию — это просто пророческий подвиг. Трудно ли сообразить, что в условиях многочисленности валютных курсов (с разбежкой раза в 2) уважающие себя международные организации типа ВБ и МВФ никаких кредитов давать не будут. У них с предсказаниями дела обстоят недурно. И они могут рассчитать, за сколько времени исчезнет, скажем, 100-миллионный кредит, если кое-кто имеет возможность, например, обменять на черном рынке свой бакс на 420 тысяч рублей, а потом конвертировать его в Национальном банке по 250 тысяч. Запустил полтора миллиона — на тебе миллион чистой прибыли (строго говоря, 68 центов на каждом долларе).

У психоаналитиков и психиатров существует интересный метод так называемой арт-диагностики — пациент что-нибудь рисует, а врачи пытаются по стилю и содержанию реконструировать его состояние. Трудно было предсказать, что «нарисованные» весенним референдумом 1995 года предельно советизированные флаг и герб подскажут мировому сообществу четко выраженные устремления новой власти к большевистской реставрации? И опять же не удивительно, что страна стремительно превращается из партнера в пациента. Или вот великая проблема, когда на основе так называемого ноябрьского референдума 1996 года был формально разрушен контрольно-корректировочный механизм в системе государственной власти. Очень сложно было понять, что мировое сообщество воспримет это как сигнал к резкому усилению внешнего контроля? Прошу простить за бытовой образ, — но либо ты обеспечиваешь эффективный контроль в собственной семье и с ее помощью как-то корректируешь свое поведение, либо тобой занимаются извне. Сначала добрый участковый Анискин с морковкой в кобуре, а потом дело может дойти и до ОМОНовского штурма...

Или эта пациентизация Беларуси с фактическим вылетом из европейского пространства рассматривалась как удовлетворительный и даже привлекательный сценарий? И в расчет бралось то, что одному из центральноевропейских лидеров за некие особые заслуги позволят играть на всем пространстве по собственным правилам? Боюсь, нет, ибо такой широтой души обладает только наша родная политическая оппозиция. Она позволяет.

### Непредсказуемая оппозиция

Это, разумеется, самая болезненная часть темы. Ибо касается честных и демократически настроенных людей, которых, однако, постоянно переигрывали и пока аккуратно переигрывают президентские аналитики в штатском. Не потому, что последние во главе со своим шефом — гениальные сценаристы и режиссеры: посмотрите хотя бы, куда они затолкали страну на международной арене, какие места мы занимаем по тем же экономическим показателям. А прежде всего потому, что им вообще не противопоставлена сколь-нибудь профессиональная игра. И их оппоненты тоже люди индульгенции, только в отличие от президентской гвардии оправдывающие «непредсказуемостью» одни только поражения.

Можно, разумеется, долго и обстоятельно говорить о странном поведении 12-го и 13-го парламентов в тех или иных критических обстоятельствах. Почти всегда дело будет сводиться к спонтанным сценарно не выстроенным решениям, которые легко опрокидывались президентурой. Достаточно вспомнить уход на каникулы летом 1996 года и последующее выдвижение так называемого альтернативного проекта конституции, который, кажется, прочитали даже не все депутаты. Или элементарную ловушку с переговорами под водительством выдающихся российских коммунистов Строева и Селезнева... И, конечно, необходимо каждый раз говорить о своеобразной компенсации «беспрогнозного поведения» личным мужеством. Все так.

Но существовали своеобразные стратегические узлы, не развязав которые, оппозиция не могла рассчитывать даже на малейший успех. Один из таких узлов — анализ президентских выборов 1994 года. Просто лабораторно чистый вариант для понимания того, зачем вообще необходим серьезный прогноз. Потому что тогда сторонники Лукашенко и явно непроходных кандидатов дружно ликвидировали возможность сохранить демократический вектор развития. То есть вызывали в своем воображении некие картинки, не имеющие отношения к сколь-либо реалистическим сценариям. Очень похоже, дело было в крайне несовершенных технологиях, и, похоже, эти технологии законсервировались и фактически использовались позднней, разумеется, со столь же печальными результатами.

Боюсь, рецидив замещения реальных сценариев «галлюцинациями на тему» имел место и недавно в связи с «майскими выборами». Свою позицию по этому поводу я формулировал еще в январе, полагая, что хотя бы ради такого важного шага наши политоппозиционеры пожелают начать дело с аналитики, а не с политических решений. К сожалению, «вышло как всегда». Обсуждать данные типа 4-х миллионов голосов избирателей считаю бессмысленным. Повторюсь — это не ошибка и не фальсификация. Хуже — безвкусица. Интеллигентно говоря, моветон. Это примерно то же самое, что и 27% избирателей, проголосовавших после 18 часов в пользу приснопамятного мероприятия «референдум-96».

Но наступает новое явление — ОБСЕ организовало Бухарестскую встречу, нечто среднее между слушаниями по белорусскому вопросу и переговорами между представителями президентуры, оппозиции и «третьего сектора». Последний фактор действительно важен — без демократически ориентированных общественных организаций не слишком понятно, кого, собственно, представляет сегодня оппозиция. Более того, ввиду полного отлучения от сектора государственной власти и политические партии, и депутаты Верховного Совета реально пребывают в том же «третьем секторе», как бы обидно (для кого-то) это ни звучало. И говорилось об этом давно — плохо слушалось.

Не хотел бы останавливаться на «мелочах», характеризующих лишь явную небрежность представителей ОБСЕ при формировании делегаций. Так, заместитель председателя Федерации профсоюзов оказался в делегации правительственных чиновников. И несмотря на отдельную постановку вопроса о состоянии СМИ в составе делегации «третьего сектора» не попал ни один представитель организаций, чьи мониторинги известны во всем мире (Белорусская ассоциация журналистов и Белорусский Пен-центр), вообще ни один журналист. Но Бог с ним, с составом. Дело в формате и в содержании дискуссий. Один провал переговоров под эгидой ОБСЕ уже имел место. Его блестяще организовал бывший министр иностранных дел Иван Антонович. Президентская сторона шла на переговоры с довольно четкой моделью ситуации и своими сценариями. Плохими или хорошими — иной вопрос. С чем шли тогда представители ОБСЕ и оппозиция, понять трудно. Боюсь, каждый надеялся на другого. В итоге — пшик. Насколько я понимаю, сейчас ситуация повторяется — на выработку сценариев развития ситуации у оппозиционных кругов опять не хватило времени. Между тем, риск гораздо выше, чем в ходе первой встречи. В ОБСЕ и так понимают, что президентура осуществляет полный политический контроль ситуации в стране. И, возможно, ОБСЕ желает наглядно убедиться, что серьезных стратегий оппозиция не имеет, и с «чистой совестью» признать режим после 20 июля или, скажем так, заметно смягчить отношения с ним. В конце концов, перед разведчиком и профессиональным дипломатом Георгом Виком стоит конкретная задача найти не слишком сложную развязку белорусского узла, и, похоже, он близок к ее решению. И тогда, как вполне бессмысленно выражаются некоторые комментаторы, «наступят непредсказуемые последствия». В том-то и дело, что предсказуемые — нросто некоторые жмурятся от ужаса, а другие — жмурируют. ■



Фота Ул.ШЛАПАКА

Стена плача в роковом подземном переходе на станции метро «Немига»

КНІГАРНЯ

# Кніга для ўсіх беларусаў

Янка ЗЭЛЬВІЧ

«На Беларусі па вёсках ідуць пагалоскі — з'явіўся Кастусь Каліноўскі», — прыгадваецца мне вершык са школьнай чытанкі. Гаворка ў тым вершыку вялася пра няўлоўнага мсціўцу, які помсціць акупантам за паншчаную Беларусь. І хоць у славутага кіраўніка нацыянальна-вызвольнага паўстання апошнім часам з'явіўся яшчэ адзін варты наступнік па імені Мірон, які бясстрашна развешвае бел-чырвона-белыя сцягі над выканкамамі і дэмантуе помнікі розным Сувора-вым, сам Кастусь Каліноўскі, нягледзячы на паважны стопяцідзесяцігадовы век, лічыць абавязковым яшчэ раз папярэдзіць сваіх даверлівых суайчыннікаў: «З усіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку аб сваім брацтве з намі. Не будзем гаварыці, з якіх народаў маскалі паўсталі, брацтва там не многа знойдзем, няволя манголаў ды і цароў маскоўскіх зусім забіла ў гэтым народзе ўсякую памяць аб свабодзе ды і зрабіла з яго грамады людзей паганых, без мыслі, без праўды, без справядлівасці, без сумлення ды і без баязні Боскай...» Так што паслухаем свайго нацыянальнага героя, перш чым лезці ў славянскія інтэграцыйныя хаўрусы.

А прамаўляе да нас Кастусь Каліноўскі са старонак кнігі, што нядаўна выйшла ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор». Апрача яго палымяных прамоваў, у прыгожа аздоблены том увайшлі тэксты першай беларускай газеты «Мужыцкая праўда» (упершыню без цэнзарскіх скаротаў), лісты і паказанні на следстве, дакументы, што датычаца нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года. Кніга «Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць» павінна быць у кожнай беларускай сям'і, у якой шануюць ідэалы вольнай і незалежнай Беларусі.

*Замовіць выданне можна па тэлефоне (8-017) 220-70-27.* ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 556 Нумар падпісаны ў друк 08/06/99 (15:00) Наклад — 17.640